

## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

У вобласьці хутка зьявіцца "свабодная эканамічная зона" (СЭЗ). Паводле афіцыйных паведамленьняў, яна разьмесьціцца на базе і магутнасьцях Магілёўтрансмашу, дрэваапрацоўчага камбінату, Магілёўгандальсэрвісу і Тэхналягічнага парку. Вядома, што мэханізм сапраўднай СЭЗ павінен быць выкарыстаны дзеля ўздыму эканомікі. У ейных межах трэба забясьпечыць ільготны эканамічны рэжым, у тым ліку падатковы й інвэстыцыйны. Акрамя таго, там павінны дзейнічаць моцныя гарантыі бясьпекі для бізнэсу, а ў выніку – ствараецца сучасная вытворчая база й шмат працоўных месцаў. Уявіце сябе, што гэта ўсё адбудзецца ў нас са згоды сёньняшняй улады. Не ўяўляецца...

На Магілёўскім аўтазаводзе – чарговае надзвычайнае здарэньне: загінуў 40-гадовы рабочы. Як паведаміў сябра Савета суполкі СПБ на аўтазаводзе Барыс Бухель, трагічны выпадак адбыўся з прычыны парушэньня тэхнікі працоўнай бясьпекі. Нагадаю, што ня так даўно на прадпрыемстве адбыўся выбух. Тады ніхто, дзякуючы шчасьліваму зьбегу абставінаў, не загінуў. Выглядае, што дырэкцыя не надае належнай увагі бясьпецы працоўных.

Паводле апошняга паведамленьня афіцыйнай статыстыкі, сярэдні заробак у вобласьці даведзены да 70 даляраў. Як кажуць, яшчэ крыху напружыцца – і будзе ўсе 100. На паседжаньні аблвыканкаму ўдакладнілі, калі гэта павінна адбыцца – да 1 жніўня. Як лічыць старшыня Барыс Батура, гэтыя 100 даляраў трэба зарабіць. Як зарабіць, – гэта цяжкае пытаньне. Усе кіраўнікі раюць лепш гандляваць, лепш працаваць, больш эканоміць. На практыцы, аднак, усё скончаецца штучным стрымваньнем коштаў і курсу валюты. А яшчэ на заробкі ідуць рэсурсы зь іншых артыкулаў бюджэту: інвэстыцыйных, экалягічных, сацыяльных і г. д. Значыць гэта тое, што ўвосень, пасьля выбараў, альбо крыху пазьней нас чакае вельмі рэальны і жорсткі грашовы крызыс. Але галоўнае для ўлады – што да выбараў ён не адбудзецца.

Сёньня кожнае дзясятае злачынства зьдзяйсьняецца непаўнагадовымі. Вось абласны савет і зацьвердзіў новыя правілы паводзінаў непаўнагадовых. Яны мала чым адрозьніваюцца ад ранейшых: тая ж "камэнданцкая гадзіна" ад 22-00 да ранку (на вакацыях ад 23-00), тая ж забарона на нявветлівыя паводзіны, на парушэньне грамадзкага парадку й г. д. Спадзеў на тое, што правілы гэтыя паспрыяюць зьмяншэньню колькасьці юнацкіх злачынстваў, маюць, мабыць, толькі тыя, хто іх прымалі. Бо агульны крызыс у грамадзтве і гаспадарцы – вось тая глеба, зь якой усё і вырастае. Перапісанымі правіламі яе ня выправіш.

У Магілёве канфіскавалі буйную партыю вядомага расейскага піва "Балтыка" агульным коштам каля 60 тысячаў даляраў. Піва было без акцызных марак, да таго ж адсутнічалі дакумэнты на аплочаныя падаткі ды зборы. Але зазначыць хочацца наступнае. Трэба ствараць такія эканамічныя ўмовы, каб, у прыватнасьці, расейцам прадаваць сваё піва тут было невыгодна з прычыны вялікай канкурэнцыі з боку нашага айчыннага піва. А ў сёньняшніх умовах, калі піваробчыя прадпрыемствы працуюць на састарэлым абсталяваньні й па такіх жа тэхналёгіях, "Балтыка" натуральна перамагае.

Незарэгістраваны моладзевы рух "Зубр" (ня блытаць з утвораным днямі афіцыйным расейска-беларуска-украінскім парлямэнцкім аб'яднаньнем) сабраў у Бабруйску некалькі тысячаў подпісаў пад патрабаваньнем да гарадзкіх уладаў, каб тыя выправілі сытуацыю з гарадзкім транспартам. Тут усё традыцыйна: аўтобусаў і тралейбусаў не хапае, машыны патрабуюць рамонту. Гарвыканкам быў вымушаны адрэагаваць на грамадзкі зварот. Але увесь адказ зьвёўся да трывіяльнай канстатацыі фактаў: маўляў, сапраўды ўсё ў нас дрэнна. Як будзе вырашацца праблема – у адказе не гаворыцца. Верагодна, прыйдзецца зноў зьбіраць подпісы – каб тым разам выканкам паабяцаў што-небудзь.

Ледзь не героямі вярнулася з Масквы дэлегацыя аблвыканкама на чале з Б.Батурам, якая была прынятая самім Юрыем Лужковым. Удзельнікі маскоўскіх перамоваў ахвотна і радасна па ўсіх каналах мясцовага тэлебачаньня і ў сваіх газэтах распавялі пра пасьпяховыя гандлёва-інвэстыцыйныя дамоўленасьці, якія выратуюць нашую затаварaную нікому не патрэбнай прадукцыяй прамысловасьць і рэалізуюцца грашовымі ўкладаньнямі ў занямоглыя заводы. Сапраўды добра каб так! Аднак дамоўленасьці – ня ёсьць рэальнасьць, колькі падпісана падобных "пратаколаў аб намерах", а жыцьцё не паляпшаецца. Засьцярожвае і тое, што менавіта за Ю.Лужковым (узгадаем Крым і Будзёнаўск) водзіцца ўменьне скарыстоўваць палітычныя дывідэнты ад рэклямовых кампаніяў "выратавальніка братоў-славянаў" і даволі сьціплае ажыцьцяўленьне практычнай дапамогі на справе. Характэрна, што адзін з рэпартажаў аб візыце пачынаўся прыслоўем, у дадзеным выпадку даволі двухсэнсоўным – "Москва слезам не верит". Аднак дэлегацыя нашая пасьпяшалася завярыць публіку ў тым, што на гэты раз белакаменная паверыла чарговым бедным сваякам.

*Да сустрэчы,*
*Сымон Глазштэйн.*

# Сумленна зароблене права

***На пачатку тыдня рэдактары рэгіянальных недзяржаўных газэтаў сустрэліся ў Менску зь лідэрам грамадзкага руху "За новую Беларусь" Васілём Лявонавым. Руху гэтаму ня споўнілася пакуль нават месяца ад афіцыйнага нараджэньня, але ягоная папулярнасьць адразу пераўзышла вядомасьць шмат якіх зацятых грамадзкіх аб'яднаньняў і нават палітычных партыяў. Таму спрыяюць некалькі відавочных прычынаў: дакладная мэта руху, сфармуляваная коратка і зразумела – замена існуючага ў краіне рэжыму; згуртаваныя ў ім людзі, вядомыя не па мітынгах, а па пасадах, прафэсіях і грамадзянскім сумленьні. І, зразумела – асоба кіраўніка.***

***У сустрэчы ўдзельнічаў рэдактар "ТМ".***

– Магчыма, што чытачам нашай вобласьці, асабліва сярэдняга і старэйшага веку, будзе цікава даведацца пра ўражаньне, якое на мяне зрабіў В.С.Лявонаў – ня ў якасьці асобы ў новым палітычным амплуа, а як даўні знаёмец па службовых адносінах і як чалавек, які, здаецца, зусім нядаўна і працяглы час кіраваў нашай вобласьцю, потым – сельскай гаспадаркай краіны і, нарэшце, "ва ўзнагароду за ўсё", ад аднаго з былых дробна-падначаленых, што ўзьняўся на вяршыню ўлады, атрымаў ганьбу публічнага арышту, прыдзірлівае сьледзтва, турэмны тэрмін й нават – помсьлівую канфіскацыю маёмасьці. Такое можа зламаць каго заўгодна.

Васіля Лявонава не зламала. Ён выглядае ўпэўнена і падцягнута, трымаецца, хаця гэта было яму ўласьціва і раней, важка і сьціпла аднасова. Гаворыць з той ступеньню пераканальнасьці, якая характэрная для тых, хто на асноўныя пытаньні "бытия" даў шчырыя адказы сам перад сабой.

Што тычыцца адказаў на журналісцкія пытаньні, Васіль Лявонаў быў кароткім, дакладным і нават афарыстычным. Ад былога шматслоўя, абавязковага для кіраўніка буйнога маштабу, асабліва партыйнага, не засталося і сьляда.

Можа й таму яшчэ, што вызначаная Рухам грамадзкая мэта, цьвёрда лічыць Лявонаў, ня мае патрэбы ў дадатковым "тэарэтычным" абгрунтаваньні, паколькі вынікі 7-мі гадовага гаспадараньня ў краіне цяперашняга рэжыму ва ўсіх навідавоку. Прамаруджваньне зь ягонай заменай на больш дэмакратычную, цывілізаваную і кампэтэнтную ўладу пагражае краіне поўным і незваротным крахам эканомікі, культуры, маралі і дэмакратычных пэрспэктываў. Пагражае ўрэшце зьнікненьнем самой Беларусі як гістарычнай, этнічнай, геаграфічнай, культурнай, самастойнай і роўнай паміж іншымі, але непаўторнай і адметнай Адзінкі чалавечай гісторыі і разьвіцьця цывілізацыі.

Трымаючыся сваёй мэты, новы Рух, пазначыў В.Лявонаў, будзе пазьбягаць любых спрэчак і сутыкненьняў з ужо існуючымі аб'яднаньнямі і партыямі. "Мы ня маем прэтэнзыяў, – падкрэсьліў ён, – ні на будучыя пасады, ні на палітычнае верхавенства, ні на прапанаваньне адзіна правільнага пэрспэктыўнага курсу краіны. Мы хочам пераканаць людзей у тым, што цяперашняй дыктатуры, бядотнаму стану грамадзтва, панішчанай маралі ёсьць альтэрнатыва і ёсьць магчымасьць яе спраўдзіць". З гэтай ідэяй структуры і прыхільнікі новага Руху маюць намер дайсьці да кожнай вёсачцы, паколькі, як зазначыў В.Лявонаў, пераконваць Менск і буйныя гарады ў адмоўным абліччы рэжыму асаблівай патрэбы няма. Рух улічвае, што супраць рэжыму сёньня – прафэсійная і адукаваная намэклятура, інтэлігенцыя, кіраўнікі прамысловасьці і вёскі, супрацоўнікі праваахоўчых структураў, навучэнская моладзь. Складаней сытуацыя, прызнаў В.Лявонаў, з войскам – наскрозь па-савецку ідэалягізаваным і хворым на "славянскае адзінства". Але, на шчасьце, ня толькі войску вырашаць лёс краіны.

Цяпер Рух сьвядома не вызначае сваіх акрэсьленых сымпатыяў да кагосьці з абвешчанай пяцёркі апазыцыйных кандыдатаў на прэзыдэнцтва. Але ён будзе ўплываць на тое, каб да "крытычнага дня" у апазыцыйным сьпісе засталося адно прозьвішча, якое будзе названае, як спадзяецца В.Лявонаў, самімі кандыдатамі. У любым выпадку, падкрэсьліў ён, гэта павінен быць чалавек, для якога няма сумневу ў неабходнасьці захаваньня сувэрэнітэту краіны.

Журналісты не маглі абмінуць тэму ўплыву на нашыя выбары з боку Масквы. Васіль Лявонаў паведаміў, што дэталёва і працяглы час займаўся вывучэньнем гэтай праблемы праз асабістае кантактаваньне з уплывовай расейскай палітыка-гаспадарчай элітай. Ягоны аналіз сытуацыі сьведчыць пра тое, што пры ўсіх вонкавых уплывах і перашкодах, пра якія нельга забывацца, вынікі выбараў урэшце залежаць толькі ад таго, як ***насамрэч*** прагаласуе беларускае грамадзтва.

Лявонаў, як тое было ясна падчас сустрэчы, верыць, што грамадзтва выкарыстае сваё права на выбар прыстойнага, а не тупіковага шляху для сябе і дзяцей.

У сваю чаргу журналісты паверылі праву самога Лявонава знаходзіцца цяпер на вастрыні вызначальных для краіны падзеяў, якое ён апраўдаў папярэдняй прафэсійнай працай, грамадзянскімі паводзінамі і маральнай трываласьцю. Падаецца, што грэблівае непрыслухоўваньне да такіх людзей з боку нашага грамадзтва выглядала б зусім неапраўданым марнатраўствам...

***Генадзь СУДНІК***




## КАЛГАСНЫЯ ЗАМАЛЁЎКІ

# Можа прысьнілася?...

Яшчэ вясной мінулага году адміністрацыя Магілёўскага мясакамбіната ўзяла ў банку значны крэдыт, які скарыстала для набыцьця нафтапрадуктаў на правядзеньне палявых работ, у прыватнасьці, некалькімі гаспадаркамі Бялыніцкага раёну.

Зразумела, што былі заключаныя адпаведныя пагадненьні. Шэсьць бялыніцкіх гаспадарак абавязаліся адгрузіць жывёлагадоўчую прадукцыю на агульную суму каля 20 мільёнаў рублёў. Але паколькі гаспадаркі, скарыстаўшы падмогу, цьвёрда забыліся на тое, што дагаворныя абавязкі неабходна выконваць, адміністрацыя мясакамбінату вырашыла спагнаць пазыку з адпаведнымі налічэньнямі праз абласны гаспадарчы суд.

З тае непрыемнае нагоды ў Бялынічах днямі адбылося выязное паседжаньне абласнога гаспадарчага суда, якое правёў судзьдзя Ю.Кірэеў.

Трэба заўважыць, што кіраўнікі гаспадарак-даўжнікоў настойліва прызнавалі толькі сумы гэтак званага "асноўнага" доўгу (то бок без штрафу, пені й інфляцыйных налічэньняў). Некаторыя прасілі адтэрмінаваць выплату доўга да 1 ліпеня. Матывавалі гэта тым, што за два летнія месяцы гаспадаркі, маўляў, адкормяць патрэбную колькасьць жывёлы і адправяць яе на мясакамбінат. А.Магдалаў, новы старшыня калгасу імя Кірава, наракаў на цяжкае фінансавае становішча гаспадаркі й прасіў заключыць міравое пагадненьне. Дырэктар аграгандлёвага прадпрыемства "Друць" Л.Тухтараў, прызнаўшы толькі "асноўны доўг", у якасьці апраўдальнага аргумэнту спаслаўся на мінулагодняе стыхійнае бедзтва, ад якога загінула шмат пасеваў зерневых і зернебабовых культураў, бульбы, шматгадовых траваў.

У выніку суд улічыў-такі цяжкі фінансовы стан гаспадарак-адказчыкаў і зьменшыў сумы заяўніка. Паводле выроку суда, 6 бялыніцкіх гаспадарак павінны выплаціць мясакамбінату запазычанасьць па дагаворных абавязацельствах на агульную суму каля 23 мільёнаў рублёў.

Апроч таго, высьветлілася вельмі непрыемная для гаспадарак рэч. Аказалася, што адказчыкі зусім ня дбалі і аб сваёй юрыдычнай абароне. Яшчэ напачатку красавіка ва ўсе гэтыя гаспадаркі былі высланыя паведамленьні аб узбуджэньні справы ў абласным судзе, аднак ніхто зь іх не зьвярнуўся ў юрыдычную службу раёна для падрыхтоўкі патрэбных дакумэнтаў. Мабыць, звыкліся з тым, што якія могуць быць зь небаракаў-калгасаў даўгі. І раптам не пашанцавала.

Хаця ж грошай усё роўна няма...

***Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ***

ДЗЕ?
ДЗЕ?
ДЗЕ?

7 ліпеня мінае год, як зьнік наш калега, тэлеаператар

Рэпарцёры — не палітыкі.
Журналісты — не суддзі.
Але зафіксаваныя рэпарцёрамі факты наўмысна ці неспадзявана выносяць прысуд нават таму, што палітыкі імкнуцца схаваць ад людскіх вачэй.
Няма рэпарцёра — няма суда?
Дзе Дзмітрый Завадскі?
Хто і з якога права распараджаецца яго лёсам?

Беларуская Асацыяцыя Журналістаў патрабуе праўды!



Дзмітрый ЗАВАДСКІ

ДЗЕ?

ЧАС ГРАМАДЗЯНСКАЙ САЛІДАРНАСЬЦІ

# Дзе Дзьмітры Завадзкі?

***7 ліпеня споўніцца год, як пры нявысьветленых абставінах зьнік наш калега Дзьмітры Завадзкі.***

***Беларускія журналісты хочуць ведаць, куды зьнік Завадзкі, дзе ён і што зь ім.***

*Сёньня грамадзкае аб'яднаньне "Беларуская асацыяцыя журналістаў" распачынае акцыю, у межах якой мы будзем праз публікацыі ў газэтах нагадваць уладам пра нашага калегу. У межах акцыі БАЖ будуць таксама арганізаваныя прэс-канфэрэнцыі, пройдуць пікеты. Мы будзем зьбіраць сродкі для сям'і Дзьмітрыя Завадзкага, якая пасьля зьнік-неньня Дзьмітрыя мае далёка не найлепшае матэрыяльнае становішча.*

*7 ліпеня 2000 года Дзьмітры Завадзкі выехаў з дому ў аэрапорт "Менск-2", каб спаткаць свайго калегу, журналіста ОРТ Паўла Шарамета. Той, прыляцеўшы, знайшоў машыну Завадзкага, якая была прыпаркаваная каля будынку аэрапорту, але Дзьмітрыя ў ёй не было. Пра зьнікненьне Дзьмітрыя Завадзкага было паведамлена міліцыі, пракуратуры, Адміністрацыі Лукашэнкі. Транспартная пракуратура распачала крымінальную справу паводле артыкула 101 КК (наўмыснае забойства).*

*Увесь мінулы год, пакуль цягнулася сьледзтва, грамадзкасьць была сьведкаю гучных заяваў, грозных абяцаньняў знайсьці злачынцаў. Справу з Транспартнай пракуратуры перадалі ў Пракуратуру Рэспублікі Беларусі й перакваліфікавалі ў выкраданьне. Потым адбыліся зьмены ў вышэйшым кіраўніцтве МУС, Пракуратуры, КГБ. Сёньня, праз 11 месяцаў пасьля трагедыі, сьледзтва – ужо толькі па факце выкраданьня – скончанае. Але беларускія ўлады так і не зрабілі самага важкага – не знайшлі Дзьмітрыя. У траўні на брыфінгу па выніках сьледзтва прадстаўнікі Пракуратуры РБ паведамілі, што ня маюць зьвестак пра месца знаходжаньня Завадзкага.*

*Беларуская асацыяцыя журналістаў заклікае ўсіх беларускіх журналістаў праявіць карпаратыўную салідарнасьць, каб дамагчыся ад уладаў адказу на пытаньне:*
*ДЗЕ НАШ КАЛЕГА?*

***Прэс-служба ГА "БАЖ"***

ТРЭЦІ СУД

## Лёгкай справа ня будзе

Учора магілёўскі Цэнтральны суд правёў сваё чарговае закрытае паседжаньне ў заслухоўваньні пацярпелай, сьведкаў і самога падсуднага Д.Абадоўскага, які абвінавачваецца ў згвалтаваньні.

Два папярэдніх паседжаньні, якія пачаліся і праходзілі ў напружанай і нэрвовай абстаноўцы, былі аддадзеныя разьбіральніцтву хадайніцтваў з боку абарончага боку ня толькі Д.Абадоўскага, але й ягонага, як сьцьвярджае пракуратура, саўдзельніка па факту крадзяжу А.Новікава. Пасьлядоўна судзьдзя Г.Кужалева адхіліла ўсе хадайніцтвы, а менавіта: аб адкрытым працэсе, аб вынятку з абвінаваўчай справы доказаў, якія па меркаваньні адвакатаў былі здабытыя незаконным мэтадам, аб адхіленьні па матывах прыстраснасьці дзяржаўнага абвінаваўцы С.Крывашэінай і па матывах неаб'ектыўнасьці і зацікаўленасьці ў пакаральным выроку – самой судзьдзі. Абарончы бок не пагадзіўся з абгрунтаваньнем адхіленьняў гэтых хадайніцтваў і зь некаторымі, на свой погляд, іншымі парушэньнямі працэсуальных нормаў. У выніку абласныя адпаведныя інстанцыі апэратыўна атрымалі скаргі, аднак тэрмін іх разгляду яшчэ ня скончыўся. Тым часам суд працягваецца.

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК юрыдычных праблемаў***

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## Суд аднавіў канструктара Б.Бухеля на працы, але адміністрацыя рашэньня не выконвае

Суд Кастрычніцкага раёна нарэшце прыняў рашэньне аб незаконным перасьледзе на працы гэтага чалавека з боку адміністрацыі прадпрыемства. Летась яго зусім звольнілі з працы. Цяпер заводу давядзецца аплаціць інжынэру вымушана згублены час і аднавіць яго на ранейшым месцы.

Пакуль жа такога не адбылося, хаця рашэньне прынятае некалькі тыдняў таму. Завод абскарджвае судовы вырок у вышэйшай інстанцыі. Можна зразумець адміністрацыю: сорам прызнавацца ў незаконным перасьледзе спэцыяліста толькі за тое, што ён мае грамадзянскую пазыцыю. Барыс Бухель, нагадаем, актывіст заводзкай суполкі Свабоднага прафсаюза ад пачатку яе ўзьнікненьня. За час, што мінуў ад дня яе нараджэньня, на заводзе перабыло два дырэктары. Абодва яны не шанавалі абаронцаў рабочых правоў, адчуваючы негалосную падтрымку раённай і гарадзкой улады, якая ўпарта не рэгіструе аўтазаводзкую суполку СПБ.

Аднак ня так лёгка прыціснуць інжынэра, як рабочага. Таму за Б.Бухелем пачалося адкрытае адміністратыўнае



паляваньне. Яго "лавілі" на любых дробязях, як правіла, надуманых і пустых. Перад ім ставілі невыканальныя задачы, бо на канструктарскую працу ёсьць адпаведныя разьлікі і нарматывы, ад яго ж патрабавалі "кіношнага энтузіязму". За тое і зачапіліся: ах, ня выканаў заданьне – атрымай загад аб звальненьні!

Суд быў нялёгкім для настойлівага Барыса Бухеля і ягоных прадстаўнікоў. Яны даказвалі сваю праўду і не зьбіраліся адступаць. Суду спатрэбіліся экспэрты, каб атрымаць абгрунтаваную ацэнку канструктарскай працы. Спатрэбілася запатрабаваць шмат якія дакумэнты і вывучыць іх. Спатрэбілася апытаць сьведкаў... Нарэшце, як гаворыцца, усё стала ясным: чалавека звольнілі незаконна. Аднак Свабодны прафсаюз не сьпяшаецца сьвяткаваць прыемную перамогу. Адміністрацыя аспрэчыла вырок. Давядзецца пачакаць, з надзеяй на справядлівасьць, зразумела, разьвіцьця далейшых падзеяў.

***Сымон ГЛАЗШТЭЙН***

## Перад кім адказвае чалавек

Шмат хто з магілёўцаў ведаў пра крыж, што ўжо тры гады стаяў блізу так званых "Лаўсанаўскіх магілак". Ён быў усталяваны дэмакратычнай грамадзкасьцю вобласьці ў памяць ахвяраў Чарнобыля. Але сёньня вы не пабачыце яго на звычайным месцы...

Увогуле на гэтым месцы ўвесь час здараюцца прыкрыя падзеі, інсьпіраваныя тымі, хто наўрад ці мае сумленьне і людзкую мараль. Першы крыж быў скрадзены невядомымі яшчэ ў 1997 годзе, напярэдадні запланаванага ўсталяваньня. Замест яго на вызначаным месцы тады было пасаджанае дрэўца, якое пазьней нехта зламаў. Актывісты "чарнобыльскага руху" пазначылі месца каменным валуном.

Другі крыж, меншага памеру за няшчасны першы, быў усталяваны, як сказана вышэй, тры гады таму. На наступны год падчас традыцыйнай жалобнай хвіліны на Крыжы замацавалі шыльду "Моладзь Магілёва – ахвярам Чарнобыля. 1986-1999". На шыльдзе радкі паэта Ў.Дубоўкі:

"...О, Беларусь,
мая шыпшына!
Зялёны ліст, чырвоны цьвет!
У ветры дзікім не загінем,
чарнобылем не зарасьцем".

... Яшчэ на гэтую Радаўніцу можна было прыйсьці да крыжа ды памянуць сваіх памерлых. Наступным разам я апынуўся на гэтым месцы напрыканцы траўня й не паверыў уласным вачам. Крыжа не было. Каменьне, якім ён быў абкладзены, раскіданае. Шыльда валялася непадалёк ад валуна... Было відавочна, што тут не абыйшлося бяз тэхнікі. Значыць, быў на тое начальніцкі загад.

Не магу адказаць сабе на пытаньне: "Каму і чым перашкаджаў Крыж памяці?"

Ці ёсьць адказ на яго ў тых, хто гэта зрабіў?..

***Дзяніс НОВІКАЎ***





## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ...зь Бялынычаў



*Закончыла сваё існаваньне Лубянская пачатковая школка.*

Райвыканкам прыняў рашэньне аб тым, каб яе зачыніць, з нагоды ейнай беспэрспэктыўнасьці, – у школцы застаўся ўсяго адзін вучань. Да слова, мінулым годам таксама была ліквідаваная Мокравіцкая школка. Ня выключана, што ў раёне праз год-другі "адамруць" яшчэ колькі...

***Да складу раённай каардынацыйнай рады дэмакратычных сілаў далучылася гарадзкая філія ТБМ, якую ўзначальвае прадпрымальнік Сяргей Некрашэвіч.***

Такім чынам, практычна ўсе найбольш актыўныя грамадзкія й палітычныя дэмакратычныя арганізацыі раёну аб'ядналі свае сілы й магчымасьці дзеля стварэньня ўсьвядомленай кааліцыі. На чарговым паседжаньні рады былі выпрацаваныя рэглямэнт і фармат аб'яднаньня, удакладненыя прынцыпы супольнай дзейнасьці, а таксама зацьверджаны графік пачарговага старшынства ўдзельнікаў у радзе.

***Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ***

### ...з Бабруйску

***З нагоды сусьветнага дня абароны навакольнага асяродзьдзя й каб прыцягнуць увагу грамадзкасьці, 5 чэрвеня бабруйскія арганізацыі Маладога Фронту й Маладых Сацыял-Дэмакратаў правялі некалькі акцыяў.***

Моладзь займалася прыборкай тэрыторыяў гарадзкога парку й Лукаўскае гары, якая адначасна ёсьць помнікам прыроды й месцам адпачынку гараджанаў. Былі сабраныя шматлікія паперчыны, пластыкавыя пляшкі, бутэлькі, выкарыстаныя гумавыя вырабы ды іншае сьмецьце. На працягу "зачысткі" сьмецьце было спакаванае ў адпаведныя пакункі ды занесенае ў сьметнікі бліжэйшага мікрараёну.



***Алёна АНДРЭЕВА***

### ...з Крычава



***Апошнім часам жыхары суседніх раёнаў па чыгунцы прыязджаюць сюды па хлеб.***

Гэта адбываецца таму, што хлеб тут больш танны (на 100-150 рублёў), чым, напрыклад, у Касьцюковічах ці Клімавічах. А хлебабулкавыя вырабы, якія прывозяць у гэтыя гарады з Расеі, попытам не карыстаюцца. Факт жа вялікіх коштаў на хлеб у названых раёнах мае простае тлумачэньне: тамтэйшыя хлебазаводы зьяўляюцца каапэратыўнай уласнасьцю й таму сабекошты на муку маюць высокую нацэнку.

***Андрэй КУЗЬМІН***

## Як перамагчы экалягічную неахайнасьць

Жыцьцё ва ўмовах дрэннай экалёгіі й няздольнасьці дзяржавы яе палепшыць вымагае ад экалягічных арганізацыяў ня толькі сур'ёзнай барацьбы за чыстую прыроду, але й грунтоўнай працы з насельніцтвам.

Пра гэта размаўлялі на рабочай сустрэчы прадстаўнікі экалягічных арганізацыяў вобласьці. Абмяркоўвалі, у прыватнасьці, тое, як прасоўваць экалягічную культуру, яе каштоўнасьці "у народ". Бо ў грамадзтве зараз пануе натуральная экалягічная неахайнасьць. Адзначылі ўдзельнікі сустрэчы і малалікасьць грамадзкіх асяродкаў у абарону чысьціні навакольля ў вобласьці. І гэта асабліва сумна, паколькі постчарнобыльская, "нахімізаваная" Магілёўшчына – ці ня самы трывожны рэгіён краіны ў экалягічным сэньсе.

Прадстаўнік галянскай ініцыятывы *Milieukontakt*, якая выступіла арганізатарам сустрэчы, падзяліўся сваім досьведам па наладжваньні сапраўдных грамадзкіх кампаніяў, скіраваных на адукацыю насельніцтва ў экалягічных пытаньнях. Было справядліва адзначана, што ў нас тут яшчэ амаль неўзаратае поле.

За два дні сустрэчы большасьць пытаньняў у згаданай тэматыцы была грунтоўна абмеркаваная. І хоць нашае паветра чысьцейшым пакуль ня стала, можна спадзявацца, што праз намаганьні канкрэтных грамадзкіх асяродкаў і, хацелася б зазначыць, – з дапамогай кожнага з нас – экалягічная сытуацыя ў рэгіёне зазнае зьмены да лепшага.

***Іван ЗАСАДА***

НАСУСТРАЧ... СЬВЯТУ?

## Паднашэньнямі не кампэнсуеш

***У другую нядзелю пасьля выхаду гэтага нумару "ТМ" – Дзень мэдычнага работніка. Звычайна мы імкнемся ня бегчы за падзеямі, а нагадваць пра іх загадзя. Каб у чытачоў з нагоды якой даты ці "чырвонага дня" быў час падумаць аб іх у цішыні, не перакрытай узьнёслымі рапартамі і гучнымі аркестрамі. Тым больш, калі гаворка ідзе аб праблемах, датычных усіх.***

Паводле беларускага Закону аб ахове здароўя, на мэдычную сфэру трэба выдаткоўваць ня менш за 10% ад нацыянальнага прыбытку. Апошнія гады выдаткі на ахову здароўя склалі толькі 4,5% ад унутранага сукупнага прадукту. Сёлета на мэдыцыну плянуецца выдаткаваць толькі 4,3%. За апошнія 4 гады на ахову здароўя кожнага беларуса пайшло 55 даляраў штогод. Паводле міністра аховы здароўя І.Зелянкевіча, у блізкім часе фінансовая сытуацыя ў мэдыцыне не палепшыцца. Ён кажа: "Грошай усё роўна больш ня будзе. Ніколі мы ня будзем выдаткоўваць 20 альбо 15 адсоткаў унутранага сукупнага прадукту на ахову здароўя. Гэта ілюзія, утопія".

Ад савецкага часу беларускай сыстэме аховы здароўя ў спадчыну засталася бясплатная мэдыцына, дакладней – дэклярацыі пра бясплатную мэдыцыну. Бо беларусы плацяць падаткі, зь іх фармуецца бюджэт, а потым улада вырашае, колькі грошай варта выдаткаваць на мэдыцыну. На жаль, у краіне няма парлямэнту, які б кантраляваў гэтае выдаткаваньне. Гэтак усё, што "не дададзена" мэдыцыне зь бюджэту, беларусам прыходзіцца кампэнсаваць з уласнай кішэні. Вядома, што якасную мэдычную дапамогу часта амаль немагчыма атрымаць бяз пэўнага знаёмства, паднашэньня альбо грашовай падзякі.

А які цяпер стан мэдычных установаў? Паводле Нацыянальнай справаздачы ААН аб чалавечым разьвіцьці ў Беларусі ў 2000 годзе, каля 45% лячэбна-прафіляктычных установаў знаходзяцца ў памяшканьнях, не прыстасаваных для гэтага. Больш за палову мэдычнага абсталяваньня беларускіх мэдычных установаў адпрацавала звыш 10 гадоў, і яго трэба сьпісваць з прычыны маральнага і фізычнага зносу. Каля 36% мэдычных установаў пабудаваныя да 1941 году. 125 мэдычных карпусоў месьцяцца ў аварыйных будынках. А ў 148 вясковых больніцах ды 232 вясковых амбуляторыях дагэтуль дзейнічае пячное ацяпленьне.





Для параўнаньня – у здраўніцах Упраўленьня справаў прэзыдэнта нядаўна было аднаўленае практычна ўсё дыягнастычнае абсталяваньне, пра што з гонарам паведаміў дырэктар Рэспубліканскага цэнтру па аздараўленьні і санітарна-курортавым лячэньні насельніцтва Ў.Рыжанкоў, праўда, адзначыўшы пры тым, што прафсаюзныя ды калгасныя здраўніцы знаходзяцца ў горшым стане. Значная частка вясковых лякарняў ня мае гарачай вады, некаторыя ня маюць і халоднай вады ад вадаправоду, і сёстры разам з хворымі носяць яе з калодзяжаў.

Але найбольш істотнае й трывожнае ў галіне пытаньне – кадравае. Як і заўжды, востра не хапае лекараў для працы на вёсцы. Цяпер там патрэбныя і лекары-тэрапэўты, і пэдыятры, і рэнтгенолягі, і анэстэзіёлягі, і стаматолягі, і хірургі. У некаторых раёнах няма псыхолягаў і нарколягаў, дык на гэтых пасадах працуюць іншыя лекары па сумяшчальніцтве...

Відавочна, што ў краіне практычна адсутнічае і сыстэма прафіляктыкі хваробаў. Дадайце сюды дрэнную экалёгію, няякаснае харчаваньне, запозьненае зьвяртаньне да лекараў, адсутнасьць даступных лекаў, чэргі на прыём у больніцы, а нават і да ўчастковага доктара...

***З матэрыялу Ганны СОУСЬ (радыё "Свабода")***

ЯК ЖЫВЕШ, ФЭРМЭР

## А пачыналася ўсё як у людзей

***У краіне (нашая вобласьць, зразумела, ня ёсьць выключэньнем) імкліва скарачаецца колькасьць фэрмэрскіх гаспадарак. Толькі з пачатку гэтага году некалькі соцень (!) беларускіх фэрмэраў вымушаныя былі заявіць пра банкруцтва альбо пра блізкую ягоную пэрспэктыву.***

Да сярэдзіны 90-х, калі занятасьць людзей у прыватным сэктары была вялікай, колькасьць фэрмэрскіх гаспадарак у краіне складала 6-7 тысячаў. Да цяперашняга часу гэтая лічба скарацілася ўдвая. Не таму, зразумела, што фэрмэры ня вытрымалі калгаснай канкурэнцыі, альбо папросту заленаваліся працаваць. Усё прасьцей і горш: фэрмэры адкрыта не патрэбныя ўладзе менавіта сваім прыкладам выніковай працы. Улада трымаецца за калгасы, бо яны ёсьць, як прызнаў Лукашэнка, "своеасаблівымі адміністратыўнымі адзінкамі". А фэрмэрамі *адміністратыўна* не пакамандуеш, вось і ня любіць іх калгаснае і раённае чынавенства. Мала таго, за сьціплыя крэдыты (абавязковыя да тэрміновага вяртаньня, бо гэта не калгас!) у фэрмэраў забіраюць прадукцыю па вызначаных на пачатак года фіксаваных цэнах. Якія будуць у іх рэальныя затраты на дзень рэалізацыі прадукцыі, якім складзецца яе сабекошт – нікога не цікавіць. А гэта залежыць, у прыватнасьці, ад тэхнічнай узброенасьці працы. Сёньняшняя ж фэрмэрская "аўтаматызацыя вытворчасьці" мае аблічча састарэлай тэхнікі, калісьці набытай ў калгасах, якая даўно адпрацавала свой тэрмін і часьцяком не падлягае ніякаму рэмонту. Да таго ж, сёлета ў параўнаньні зь мінулым годам памер дапамогі фэрмэрам на набыцьцё сельгастэхнікі і ўгнаеньняў скарочаны ледзь не ў 10 разоў. Гэта азначае, што кошт тэхнікі стаў для сельскага прыватніка недасягальным.

Няўпэўнены стан фэрмэрства нядаўна пацьвердзіў старшыня рэспубліканскага прафсаюза аграрнікаў А.Ярашук. Па ягоных словах, пакуль у краіне не распачнецца сапраўднае сельскагаспадарчае рэфармаваньне, нельга спадзявацца на адраджэньне гаспадара на зямлі.

Для ўлады пачаць такое рэфармаваньне – значыць пазбавіцца магчымасьці распараджацца ўсім і ўсімі на вёсцы. Рабіць жа панішаму яна ня ўмее. За апошнія 5-7 гадоў адвучылася зусім...

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК аграрна-эканамічных праблемаў (па матэрыялах друку і радыё "Свабода")***



Рэдактар Генадзь СУДНІК





Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*
*Штотыднёвік*



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 2. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 07.06.2001 г. а 17.10.